## АД АЎТАРА

**Шмат было пертурбацый на нашай зямлі ў XX стагоддзі. Рэвалюцыі, войны і, безумоўна, перабудовы. Бо, як высвятлялася, «пабудовы» нашы ранейшыя атрымліваліся нейкімі няўдалымі. Іх трэба было, — нам так казалі заўсёды,—бурыць-ламаць не шкадуючы. І, здавалася, калі мы яшчэ разок паднаціснем, светлае заўтра можа настаць сёння вечарам?.. Але як жа без запеўкі? Ну, гэта для нашых лідэраў была не праблема.**

**1985 год. Новы генсек сказаў, як адсек: жыць так, як мы жылі раней, нельга. Хто за рэвалюцыйныя пераўтварэнні?.. Усе як адзін! А з чаго пачнём?.. «Партыя нам скажа...» —так разважалі многія, бо думаць інакш было нельга, ды і разважаць самастойна многія адвучыліся.**

**Месяц май... «У Цэнтральным Камітэце КПСС: аб мерах па пераадоленню п'янства і алкагалізму». Потым ужо — у Савеце Міністраў, Прэзідыуме Вярхоўнага Савета...**

**І — працэс пайшоў. Распачалася чарговая барацьба. З кім, з чым? Ды гэта ўжо іншая справа. Галоўнае, якім чынам і якімі метадамі.**

**Заводы з дарагім абсталяваннем пайшлі на злом. Піўзаводы — таксама. На тысячах гектараў высякалася вінаградная лаза. Трушчылі/пустыя, але ўсё роўна распраклятушчыя бутэлькі. Зніклі з твару зямлі піўбары і пабудовы адпаведнага профілю.**

**Працэс ішоў далей і глыбей.**

**Суровая ўстаноўка была дадзена міліцыі. І гандлю. І журналістам. І кінематаграфістам. І літаратарам. А тых, хто заязджаў у лясок і ператвараў у стол капот машыны, вылоўлівалі з дапамогай верталётаў. Своеасаблівы падыход быў і да камуністаў. Нічога дзіўнага: барацьба (яшчэ раз — барацьба!) за чысціню радоў працягвалася. Чыстыя адгароджваліся ад нячыстых, быццам бы ўздымаючы тым самым свой рэйтынг.**

**І ўсё ж не гэта галоўнае. У многіх і многіх людзей, не п'яніц, не алкаголікаў, набірала моцы крамольная думка: «дубовымі» мерамі і метадамі вырашаліся жыццёвыя пытанні і праблемы раней, гэтаксама вырашаюцца і зараз. Не будзе нашым бедствам канца краю. І не ў п'янстве тут справа, яно сапраўды — зло, але трэба глядзець шырэй...**

**Той, хто знойдзе час цалкам пачытаць аповесць «Дзень святога Валянціна», спадзяюся, зразумее аўтара. Пісалася яна не сёлета, і не летась. Апошнія праўкі, праўда, уносіліся ў пачатку 1991 года. Тады ж рукапіс зборніка пад назвай «Кветка кактуса» і быў здадзены ў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Атрымаў вось карэктуру. Чытачоў «Звязды» прашу зразумець аўтара, чаму ён не абнаўляў, не перайначваў асобныя месцы. Заднім, як кажуць, розумам, жыць і разважаць лягчэй. Пісаць — таксама...**

**Васіль НАЙДЗІН**

# ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

### *Урыўкі з аповесці*

Якая ў вёсцы пошта? Задрыпанае аддзяленне! Загадчыца і дзве паштаркі. З доўгімі языкамі. І моцным нюхам на сакрэтную інфармацыю і канфідэнцыяльную перапіску. Дзякуючы іменна паштавікам Валянціна празвалі ў вёсцы «эсэрам». Так-так, эсэрам! За кантакт — у сэнсе перапіскі — з Сялянскім саюзам і Саюзам аграрнікаў. Больш таго. Ужо хадзілі плёткі, што ён, Рубанюк, з'яўляецца тайным арганізатарам сялянскай партыі і меціць у яе лідэры. Каб зручней дзейнічаць і дом у вёсцы купіў пад дачу, свіней, курэй завёў для прыкрыцця, значыць—для канспірацыі.

А суседцы Парасцы дом іх, з невялікім участкам — дваццаць няпоўных сотак,— не даваў спакою ні днём, ні ўначы. Рубанюкі наогул баяліся, каб яна іх не спаліла. Пра чырвонага пеўня суседка ўжо неяк выказвалася.

— Гарадской кватэры ім мала,— бубніла Параска.— Усё б заграблі...

— Законы мы не парушалі,— культурна апраўдваліся Валянцін і яго жонка — Валянціна.— Цяпер дазволена. Хоць ты і гараджанін, можаш купляць у вёсцы дом. Зямлю бяры...

— Вось іменна. Ды нашы вярхі ўсё б аддалі. І Германію, і Кубу... Там — ампірыялістам, тут — кулакам! Няма на вас Іосіфа. Вісарыёнавіч навёў бы парадак...

Так вось і накоплівала ў сабе дурную энергію не вельмі разумная Параска. А калі аднойчы куры Рубанюкоў апынуліся ў агародчыку — не ўгледзелі, факт,— зусім суседка адпусціла тармазы.

— Фермеры знайшліся!..— крычала яна.— Арындатары!.. Не сядзелася ў горадзе, сюды прымчалі. Ведаем мы... На калгасную зямельку, палітую крывёю і потам нашанскім, нацэліліся...

— Працуем жа... Ад цямна да цямна,— яго Валянціна аж заплакала.— У магазінах амаль не бываем, усё сваё... Падмога дзяржаве, усяму народу.

— Ах, каб на вас!.. Пра народ яны думаюць. За курамі сваімі ўгледзець не могуць, а лезуць у хвермеры...

Валянцін у гэты момант у хлеўчуку карміў кабанчыкаў і ўсё чуў. А праз маленькае акенца — бачыў. У яго спачатку з'явілася жаданне выбегчы і растлумачыць суседцы, па якім такім праве яны жывуць тут, няхай сабе і наездамі. Але хутка астыў. Няхай балабоне. Жонку толькі шкада.

— ...Не будзе тут часу гарэлку жлукціць! Ды й выцвярэзніка ў нас нямашака...

Ён выдатна разумеў, куды гне суседка.

***

У вёсцы, дзе Рубанюкі купілі, як у народзе кажуць, пад дачу дом, не сакрэтам было і тое, што Валянцін сапраўды аднойчы трапіў у выцвярэзнік. У горадзе сваім, канечне. Працаваў ён тады на буйным заводзе фрэзероўшчыкам. Зарабляў няблага. Сына, дачку гадавалі. Кватэра — трохпакаёвая. Праўда, кааператыўная, але затое гадоў дзесяць жылі яны з Валянцінай як людзі. У адрозненне ад іншых, хто чакае дзяржаўную і стаіць у чарзе на жыллё пятнаццаць, а то і больш гадоў.

І вось у адзін цудоўны момант жыццё паказала яму зубы. У самы разгар антыалкагольнай кампаніі.

Адобрылі, ухвалілі, значыць, яны ў сваім цэху — на адкрытым партыйным сходзе—той гістарычны Указ. У курылцы з яго пасмяяліся і — за заводскія вароты. Па дарозе дамоў некалькі бутэлек піва купілі. У рыбным магазіне цюльку давалі — трыццаць капеек за кілаграм. Паўкіло ўзялі. На выступе падмурка шматпавярховага дома, за газетным кіёскам, прыладзіліся. Адкаркавалі бутэлькі з «Жыгулёўскім». У рот па рыбцы закінулі. Прылабуніліся...

Тут як тут — два міліцыянеры. Маладзенькія, малако на губах не абсохла. Курсанты, здаецца. Але яршыстыя, не давядзі ты Бог.

— Што вы тут робіце? — пытаюцца.

«Піткі» стаяць, усміхаюцца.

— Ды вось... Піўко... Свежанькае...

— І пралетарская закусь. Трыццаць капеек за кілаграм,— узмацніў тлумачэнні Сяргей, сябра Валянціна.

— П'янствуеце, значыць, на вуліцы!..

— Вы што... Ніякага няма ў нас спіртнога,— дадаў і Валянцін.— Самі ж бачыце.

— Вось мы і бачым,— міліцыянеры-яршы пачалі прыглядацца да іх кішэняў.

— Пустыя! — Валянцін без усялякай задняй думкі засунуў рукі ў абедзве свае кішэні штаноў і вывернуў іх.— Няма нічога. Як заўсёды ў пралетарыяў...

Сябры зноў засмяяліся. А Раман тым часам паведаміў, што ў яго кішэнях цэлы скарб — сцізорык, пачак «Астры» і металічны рубель.

— Жартаваць з намі задумалі! — На міліцыянераў найшла яшчэ большая суровасць.— Быццам бы не ведаеце, што па новым Указе піва таксама з'яўляецца алкагольным напіткам. Хоць слабым, але алкагольным. А за распіццё іх у грамадскіх месцах — на вуліцах, у парках, скверах...

— Ды вы што, хлопцы!..

— Знайшлі «хлопцаў»... Вось вы, вы і вы,— адзін з міліцыянераў паказаў на Валянціна, Сяргея і Рамана.— Пройдземце з намі.

Страж парадку злёгку пацягнуў Рубанюка за рукаў. Валянцін тузануў руку назад. Міліцыянер ухапіўся за яе мацней. І кінуў свайму напарніку:

— Хопіць з імі, алкаголікамі, важдацца! Выклікай дзяжурную машыну...

***

У «прылазніку» выцвярэзніка за жоўтым пашарпаным сталом сядзеў магутнай камплекцыі капітан. Ён нешта пісаў у тоўстым журнале. У акенца высунуў галаву чалавек у белым халаце — не то доктар, не то санітар:

— Гэтыя ж, здаецца, яшчэ нармальныя...

— Ведаеш ты...—узняў галаву капітан.— Дарма мае стараліся?.. Малайцы, хлопцы! Уй, малайцы...

З гэтых яго слоў цяжка было зразумець, хто — малайцы? Міліцыянеры ці яны, «парушальнікі» правапарадку, сілком дастаўленыя ў гэтую ўстанову.

— Арлы!.. Калістратавіч,— звярнуўся капітан да доктара-санітара.— Нехта там зноў бушуе. Схадзі супакой.

— Зараз будзе ціха...— запэўніў Калістратавіч.

— Ну, а што гэтыя вытваралі сокалы? Дакладвайце.

Міліцыянеры наперабой пачалі тлумачыць: як, дзе і калі рабілі затрыманне.

Малюнак атрымаўся жудасны.

На стол капітана ляглі як рэчавыя доказы партатыўная рацыя з парваным рамянём і тры гузікі з форменнага адзення.

Валянцін са свайго боку зрабіў спробу паказаць капітану напалавіну адарваны рукаў.

— Цудоўныя вы хлопцы! І здаровыя,— зноў немаведама да каго звярнуўся гаспадар кабінета-прылазніка.— А дзе гэта піва прадаецца?.. Тыдзень шукаю, не магу папіць. Пасля работы, канечне. І не на вуліцы, як асобныя нашы кліенты. Не ў парку, не ў скверы... Нічога вы, хлопцы, не разумееце. У вялікай палітыцы. І не разумелі...

— Абсалютна! — спакойным голасам сказаў Раман і адвёў абедзве свае рукі за спіну.

— Дзе вам ужо зразумець?! Прапілі мазгі. Алкаголь, хлопцы, у першую чаргу дзейнічае на галаву, а потым — на ўсё астатняе. Гэта такі опіум — горш за рэлігію... Опіум для народа! Не чыталі класікаў?..

Валянцін цяжка ўздыхнуў і, узняўшы галаву, пачаў разглядаць столь.

Сяргей наогул адышоў крыху ўбок і без запрашэння сеў на стул.

— Дубы!.. Па літру могуць кульнуць, і не ў адным воку. А мабыць, уцягнуўся народ? Разгуляўся. Быццам бы перад пагібеллю якой...

— Кроплі ў роце не было! — Валянцін глядзеў капітану прама ў вочы.— Акрамя піва...

— Так-так-так... — ацэньваў сітуацыю капітан.— Можна было іх сюды і не прывозіць. У апорным пункце склалі б акт. І — трыццаць рублёў з носа. Па новаму закону!

— За што-о?! — усхапіўся са стула Сяргей.

— За распіццё спіртных напіткаў у грамадскім месцы,— удакладніў адзін з міліцыянераў-яршоў.— І непадпарадкаванне нам. Супраціўленне аказвалі? Аказвалі. Упіраліся? Факт... Усімі нагамі і рагамі. Таму можна і па другім артыкуле вас афармляць. Правільна я кажу, таварыш капітан?

— Правільна, ды не зусім,— начальнік узяўся за ручку і схіліўся над сталом.—Хопіць з іх і трыццаці рублёў. На работу паведамім. Няхай там іх прапясочаць... Ух, прапясочаць! Вазьму на кантроль. Прагрэсівачка лясне, трынаццатая зарплата, чарга на кватэру...

Сяргей не вытрымаў зноў:

— Мы будзем скардзіцца... Пракурору!

Капітан усміхнуўся.

— Ваш пракурор учора сам папаўся. Мае хлопцы высачылі... Ладна, не будзем цягнуць ката за хвост. Складаем акт — і па дамах. Да сваіх жонак. І запішыце, хлопцы, сабе на лбе: не мы законы выдумляем. Мы іх толькі выконваем. І, як бачыце, выконваем нядрэнна. Ваша прозвішча?.. Імя?.. Імя па бацьку?..

***

Апынуўшыся на вуліцы, Сяргей з Раманам адразу заявілі, што яны «клалі болт» і на дурны Указ, і на розныя там паведамленні на работу з выцвярэзніка. Кватэры ў іх былі. Партрэты на Дошцы гонару іх не віселі, з прафсаюза не выганяюць... Трынаццатай зарплаты, безумоўна, шкада, але што зробіш. А можа, яшчэ прыслухаецца заводскае начальства да іх тлумачэнняў, разбярэцца. Ну ў чым жа вінаватыя! Піва на вуліцы выпілі... Смехатура!

А Валянцін прадчуваў бяду. Ён быў членам партыі.

Сакратар іх цэхавай партыйнай арганізацыі нездарма, відаць, на сходах, ды і ў размовах тэт-а-тэт папярэджваў, ад душы засцерагаў: глядзіце, хлопцы! Ні пры якіх абставінах у грамадскіх месцах не расслабляйцеся. Не збірайцеся ў кучу, не ўжывайце нічога такога ў адкрытую. Нават — піва! Лепш у спакойнай абстаноўцы, дома. Ці на дачы, у гаражы...

— А самае надзейнае — у сарціры! — жартаваў той-сёй.— Прысеў, як чалавек, і — налівай! Ці з гарла...

**(Працяг будзе).**

---

АПТЭЧКА

**НЕАДКЛАДНАЯ ДАЎРАЧЭБНАЯ ДАПАМОГА**

# Мочакаменная хвароба

Абумоўлівае стварэнне камянёў у нырках і мачавым пузыры. Аб'ядноўвае каля 40 працэнтаў усіх уралагічных хвароб. Найбольш часта ёю хварэюць ва ўзросле 20—25 гадоў і больш, у мужчын крыху часцей.

Узнікненню мочакаменнай хваробы садзейнічаюць умовы сучаснага жыцця (гіпадынамія, якая дапускае парушэнне фосфарна-кальцыевага абмену), кліматычныя ўмовы, у якіх губляецца многа вадкасці праз скуру і лёгкія, недахват у арганізме вітамінаў А, В, Д. Вялікае значэнне мае спалучэнне розных умоў: уклад жыцця, харчаванне, нават асаблівасці глебы, пітной вады і інш.

Устаноўлена, што хранічнае запаленне нырак (хранічны піеланефрыт) бывае адной з прычын утварэння камянёў, калі парушаецца вывядзенне мачы і паражаецца тканка самой ныркі. У выніку парушаецца састаў мачы. У ёй з'яўляецца многа бактэрый слізі, якія змяняюць рэакцыю выдзяленняў. Растворныя ў мачы мінеральныя солі выпадаюць у асадак.

Пры парушэнні адтоку ў любым аддзеле мачавога тракта ствараюцца ўмовы для асаджэння крышталяў солі, размнажэння і росту любых бактэрый.

У некаторых выпадках развіццё мочакаменнай хваробы абумоўлена павышанай функцыяй парашчытападобных залоз, што павялічвае ўтрыманне ў мачы кальцыю і фосфару.

Колер і шчыльнасць камянёў залежыць ад іх хімічнага саставу. Камяні, якія складаюцца з солей шчаўевай кіслаты, карычневыя ці цёмна-шэрыя, з солей мачавой кіслаты — чырвона-карычневыя, а з солей фосфарнай кіслаты — шэрабелыя. Першыя камяні вельмі шчыльныя, другія менш шчыльныя, а трэція крохкія, лёгка крышацца.

**ПРЫКМЕТЫ. Самы характэрны — раптоўны прыступ болі ў паясніцы. Часта гэта здараецца пасля фізічных нагрузак, страсення, піцця. Боль вельмі моцны. Нярэдка ён суправаджаецца ванітамі. Паміж прыступамі адзначаецца тупы боль у паясніцы з аднаго боку. У мачы часта выяўляецца кроў. У многіх выпадках болевы прыступ заканчваецца выхадам невялікага каменя ці пяску. Але не заўсёды. У некаторых людзей з вялікімі і каралападобнымі камянямі хвароба праяўляецца толькі тупымі болямі.**

Невялікія камяні, якія заселі ў мачаточніку, для ныркі больш небяспечныя, чым буйныя ў ныркавай лаханцы. Гэта таму, што яны парушаюць адток мачы. Запаленне ныркі можа прагрэсіраваць.

**АКАЗАННЕ ДАПАМОГІ. Маленькія камяні нярэдка выходзяць з мачаточнікаў самі. Асабліва пасля прыёму лекавых сродкаў (цыстыналу, но-шпы, уралесану, баралгіну ці спазмалгону).**

**Найбольш мэтазгодна пачынаць дапамогу з цеплавых працэдур (прыкласці грэлку да паясніцы, пасадзіць хворага ў гарачую ванну ў спалучэнні з прыёмам болесуцішальнага прэпарата). Калі пасля гэтых мер жаданы вынік не атрыманы, неабходна выклікаць «хуткую дапамогу».**

**Мікалай СЕВАСЦЬЯНАЎ, кандыдат медыцынскіх навук.**
г. Мінск.

---

БЕЛАГРАПРАМБІРЖА МЕНСК

# АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «БЕЛАГРАПРАМБІРЖА»

**На таргах у пятніцу, 15 мая 1992 года, было прапанавана на продаж звыш 3 тысяч відаў тавараў на суму каля паўтара мільярда рублёў. Зарэгістравана 44 здзелкі на суму 22,4 мільёна рублёў.**

**Сярод прададзеных і купленых тавараў:**

| Назва тавару | Колькасць | Адзінка вымярэння | Цана за адзінку (рублёў) |
|---|---|---|---|
| Збожжа фуражнае і насеннае | 2.195 | тона | 6.500—7.000 |
| Ільнасемя фуражнае і насеннае | 50 | тона | 7.700—10.000 |
| Соевы шрот | 80 | тона | 7.550 |
| Цукар | 20 | тона | 64.000 |
| Крухмал бульбяны | 1 | тона | 20.500 |
| Спірт-сырэц з жыта | 2.000 | кг | 55 |
| Глазура шакаладная | 250 | кг | 320 |
| Пракладка галоўкі блока рухавіка А-41 | 50 | шт. | 9 |
| Культыватар УСКМ 5,4 | 1 | шт. | 12.500 |
| Прычэп аўтамабільны ГКБ-819-01, самазвал, г/п 5 тон | 1 | шт. | 50.000 |
| Капальнік-аднарэз Л-651 | 1 | шт. | 13.700 |
| Шыны аўтамабільныя | 15 | шт. | 4.000—4.500 |
| Стартэры для аўтамабіляў розных марак | 120 | шт. | 3.200—4.000 |
| Кабель сілавы АПВГ 2×2,5 | 100.000 | м | 25 |
| Блокі ФБС 24, 4, 6 т | 100 | м. куб. | 536 |
| Цыгарэты «Тэмп», «Флуераш», «Космас» (Кішынёўская фабрыка) | 120.000 | пачак | 12—14.50 |

**Напамінаем, што таргі праводзяцца штотыднёва па пятніцах, з 11.00 па адрасу: Мінск, вул. Казінца, 86, корпус 2. Рэгістрацыя ўдзельнікаў з 9.00. Даведкі па тэлефонах: 77-07-26, 77-01-37.**

---

ЗАГАДКАВАЕ. НЕВЕРАГОДНАЕ. ФАНТАСТЫЧНАЕ

# Магія маятніка

**Ніхто — ні ваш сябар, ні калега, ні чыноўнік і ні мудрэц не ведае вас так добра, як вы самі. Але маятнік ладнясе вам тут шмат новага, часам нечаканага, бо адкрывае доступ да нашай «чорнай скрыні» — падсвядомасці.**

**Што такое маятнік?** Невялікі грузік на шнурку (нітцы), які ў час работы з ім трымаюць паміж вялікім і ўказальным пальцамі. Робіцца ён з дрэва, металу, шкла, бакеліту, штучнага жэмчугу або янтару. Неабавязкова прымяняць каштоўныя матэрыялы. Гэта можа быць заручальны пярсцёнак, корак з уторкнутай іголкай, гузік. Маятнік падвешваецца на нітку, лёску, ланцужок або шнур даўжынёй каля дваццаці сантыметраў.

**А цяпер — навошта ён патрэбны, ваш асабісты маятнік?** З многіх сфер яго прымянення спынімся перш за ўсё на тым, што цікавіць літаральна кожнага, — здароўі. Сёння ў Францыі, напрыклад, больш як 2.500 урачоў актыўна выкарыстоўваюць маятнік у паўсядзённай медыцынскай практыцы. Але і сам хворы можа такім чынам выбраць сабе ўрача, экстрасенса. Трэба толькі напісаць прозвішча яго на лісце паперы, патрымаць над ім маятнік і спытаць: «Гэты ўрач (экстрасенс) дапаможа мне?» Нарэшце, вы і самі можаце лячыцца з дапамогай маятніка. Французскі інжынер Андрэ Сіментон выкарыстаў яго для складання дыеты, каб пазбавіцца ад цяжкага захворвання — туберкулёзу. Для гэтага ён трымаў маятнік над назвай кожнай стравы і пытаў, ці варта яе ўжываць. Вярчэнне па гадзіннікавай стрэлцы ўказвала, што варта, супраць— не. Такім чынам ён не толькі вылечыўся ад туберкулёзу, але і ад захворвання печані.

Гэтак жа можна правяраць якасць ежы або вады, хатнія расліны — ці не шкодныя яны вам? — і многае іншае. Скажам больш: гэта незаменны дарадчык і ў вырашэнні іншых жыццёва важных праблем. З дапамогай маятніка можна вызначыць сваю будучую работу, спецыяльнасць, род занятkaў. Трэба напісаць спіс розных прафесій і над кожнай назвай патрымаць маятнік, пытаючыся: «Ці падыходзіць мне гэта прафесія?»

А ці ж не цікава даведацца пра сваю сумяшчальнасць з роднымі, сябрамі, саслужыўцамі? Тут трэба дзейнічаць наступным чынам. Інтэнсіўна падумайце пра чалавека, настройцеся на яго. Затым вазьміце ліст паперы і напішыце побач два прозвішчы людзей, якія вас цікавяць. Зрабіце глыбокі ўдых, расслабцеся, патрымайце маятнік над кожным прозвішчам, пытаючыся, ці падыходзяць вам гэтыя два чалавекі. Калі маятнік акрэсліць круг па гадзіннікавай стрэлцы, то адказ станоўчы, калі супраць — адмоўны. (Дарэчы, нельга жаніцца, выходзіць замуж, калі адзін з партнёраў заражаны станоўча, а другі — адмоўна. А зарад вызначаецца па верхняй частцы цела, дзе знаходзяцца галоўныя органы — сэрца, мозг. Патрымайце маятнік каля галавы. Калі ён пайшоў па гадзіннікавай стрэлцы — чалавек зараджаны станоўча. Ніжняя частка цела нясе процілеглы зарад).

**Вы заінтрыгаваны, чытач?** Або ўжо гатовы абвінавáціць аўтара кнігі, а заадно і рэдакцыю ў шарлатанстве? Значыць, самы час растлумачыць сакрэт гэтага няхітрага прыбора, які адказвае на любыя — і простыя, і складаныя — пытанні.

Мы жывём у энергетычным Сусвеце, і кожны арганізм акружаны патокамі энергіі, якую выпраменьваюць целы. Усе раслінныя і жывёльныя клеткі здольныя адчуваць і вызначаць існуючыя энергіі. Але гэта інтуіцыя ў ходзе развіцця чалавека была выцеснена розумам. Таму інтуіцыю яму трэба развіваць нанава. Большасць з нас навучыліся ўспрымаць энергію Сусвету, а маятнік дае магчымасць навучыцца ёю карыстацца. Чалавек, які мае здольнасць да ўспрымання энергіі, павінен толькі падумаць над дакладным пытаннем або праблемай, і яго мозг пашле промні ў бясконцасць, каб атрымаць пажаданую інфармацыю. І не сам маятнік дае адказы на пастаўленыя пытанні, а наш унутраны стан, заключаны ў нервовай сістэме. Маятнік толькі ўзмацняе гэтыя сігналы і іх сэнс перадае кодам—пасрэднікам паміж свядомасцю і падсвядомасцю. Аўтары кнігі сцвярджаюць нават, што маятнік — гэта пасрэднік паміж касмічным выпраменьваннем і падсвядомасцю. А характар яго руху, які адлюстроўвае «так» або «не», вызначаецца тым, што ён паказвае станоўчую або адмоўную энергію.

**Як працаваць з маятнікам?** Вызначце для сябе яго рух, які азначае «так» або «не», «магчыма». На такі від адказаў запраграмавана падсвядомасць. Пераканайцеся, што ў час маніпуляцый вы спакойныя, вашы пачуцці стабільныя. У процілеглым выпадку адказы маятніка будуць памылковымі, бо ён працуе па біяэлектрычных законах, вельмі ўспрымальны да душэўнага стану, які можа блакіраваць паток энергіі. Не дапускайце «замыкання», гэта значыць не скрыжоўвайце рук, ног. Ногі пастаўце цвёрда на падлогу. Маятнік трымайце толькі ў правай руцэ, паміж вялікім і ўказальным пальцамі. І яшчэ адна парада: працуйце заўсёды толькі з асабістым маятнікам. Ён настройваецца на вашы хістанні і ў руках іншага чалавека страчвае адчувальнасць. Удачы вам!

**Пераклад І. МАРОЗАВАЙ.**
**З кнігі Г. Нільсана і І. Палянскага «Магія маятніка». (ФРГ).**

---

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 21 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Я крочу па Маскве». Маст. фільм.
**10.05.** «Паэма душы». Мастак Элеанора Сямёнава.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Выяўленчае мастацтва. 4 клас. Віды і жанры выяўленчага мастацтва.
**16.55.** «Два клёны». Мультфільм.
**17.30.** Для выпускнікоў школ. Асабісты погляд. Працаўладкаванне пасля школы.
**18.00.** Дабрачынны канцэрт культурна-асветніцкага цэнтра беларускай суполкі інвалідаў па зроку. 2-е аддзяленне.
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.15.** «Лясная быль». Частка 1-я.
**19.35.** Беларусь на міжнароднай арэне. Прымаюць удзел міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. К. Краўчанка і старшыня Дзяржаўнага Камітэта па знешнеэканамічных сувязях У. В. Радкевіч.
**20.20.** Тыдзень беларускага ўрада.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Студыя «Сэнс» у Слонімскім раёне.
**22.55.** НіКа.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** «Казка пра пеўніка і прыгожую прынцэсу», «Дзень цудоўны». Мультфільмы.
**8.00.** Эстрадны спектакль «Дурні мы ўсе» з удзелам Я. Петрасяна.
**9.55.** Навукова-папулярны фільм «Горад адкрытых дзвярэй».
**10.35.** Выступае Камчацкі камерны аркестр.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.25.** Спорт для ўсіх.
**11.55.** «Маё жыццё — музыка». (Да 85-годдзя дырыжора К. Іванова).
**12.50.** Авіякасмічны салон.
**13.15.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны.
**14.20.** «Партрэт». Дак. фільм.
**14.50.** «Хамелеон». Маст. фільм. 1-я серыя.
**16.00.** Мультфільм «Сонны камень». 3-я і 4-я серыі (Англія).
**17.00.** Навіны.
**17.25.** «Сам-насам з прыродай». Мультфільм.
**17.30.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.10.** Маст. фільм «Вачамі сведкі» (Англія).
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Мастацка-публіцыстычны фільм «Чалавек на ўсе часы».
**21.35.** Хіт-парад «Астанкіна».
**22.50.** Мультфільм для дарослых.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Музыка ў эфіры. Выбранае.
**0.10.** Кікбоксінг. Чэмпіянат свету сярод прафесіяналаў.
**1.10.** «Усяго шэсць струн». Фільм-канцэрт.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.25.** Іспанская мова. 1-ы год навучання.
**7.55.** Вольны час. «Увага: здымаю!
**8.10.** Іспанская мова. 2-гі год навучання.
**8.40.** Без рэтушы.
**9.35.** Памяці А. Д. Сахарава. «Вялікая хартыя вольнасцей».
**10.35.** «Джынджэр і Фрэд». Маст. фільм.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Там-там-навіны.
**15.15.** «Дзіцячыя мары». Шматсерыйны фільм (Францыя). 3-я серыя.
**15.35.** Шэдэўры еўрапейскай музыкі з храма святога Францыска Асізскага.
**16.15.** Ключ да сусветнага рынку.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** Паны-таварышы.
**17.15.** Расія і свет.
**17.45.** Экспацэнтр прадстаўляе...
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Студыя «Нотабене».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Спецыяльны камерцыйны веснік.
**19.40.** «Санта-Барбара». 47-я серыя.
**20.30.** Хрона. У свеце аўта- і матаспорту.
**21.00.** Пятае кола.
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** На сесіі ВС Расіі.
**23.00.** Пятае кола (працяг).

### 22 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Сем азёраў». Кінанарыс.
**9.00.** Выяўленчае мастацтва. 4 клас. Віды і жанры выяўленчага мастацтва.
**9.20.** «Сем старых і адна дзяўчына». Маст. фільм.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** «Тапчумба», «Жыла-была пчолка», «Казка пра храбрага зайца», «Дадабай і будзільнік». Мультфільмы.
**17.20.** Наша школа — нашы старты. Эксперыментальная ДЮСШ № 18 г. Мінска.
**18.00.** Дак. фільмы «Дакрананне», «Экспазіцыя».
**19.00.** Абласныя навіны (Магілёў).
**19.10.** Наш каментарый. «Піястры, піястры...»
**19.15.** Банк і рэформа. Пра дзейнасць Белаграпрамбанка.
**19.45.** «Лясная быль». Частка 2-я.
**20.05.** Беларускі агратэхнічны універсітэт: праблемы і перспектывы развіцця.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Тэлебіржа.
**21.40.** «Сем старых і адна дзяўчына». Маст. фільм.
**23.00.** НіКа.
**23.15.** Паказвае Гродна. «Вячэрні канал». Інфармацыйна-музычная праграма.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** «Залатая антылопа». Мультфільм.
**8.05.** Фільм — дзецям. «Песні для ўнукаў».
**9.05.** ...Да 16 і старэйшым.
**9.55.** «Рубаі Хаяма». Фільм-балет.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.25.** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**12.15.** Іграе інструментальны ансамбль «Куток Расіі».
**12.30.** Навукова-папулярны фільм «Цені ў лесе» (Англія).
**13.20.** Брыдж.
**13.45.** Бізнес-клас.
**14.00.** Навіны.
**14.25.** «Па той бок рампы з усмешкай». К. Лучко.
**14.45.** «Хамелеон». Маст. фільм. 2-я серыя.
**15.50.** «Газавае супольніцтва ў абноўленай Еўропе».
**16.00.** Мультфільм «Сонны камень». 5-я і 6-я серыі (Англія).
**17.00.** Навіны.
**17.20.** Чалавек і закон.
**18.00.** Тэлекампанія «Астанкіна» прадстаўляе праграмы «Сентрал тэлевіжн» (Англія). «Проста нармальная дзяўчынка». Маст. фільм; «Вяселле бурага мядзведзя». Мультфільм.
**18.50.** «Поле цудаў».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** «ВІД» прадстаўляе: «Токшоу», «Музагляд», «АнтыСНІД», «Шоу-біржа», Пляцоўка «Агляду».
У перапынку (23.00) — Навіны.
**0.15.** «Ранішняя зорка» ў начным эфіры.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Час дзелавых людзей.
**8.20.** Англійская мова. 1-ы год навучання.
**8.50.** «Дамашні клуб».
**9.05.** Англійская мова. 2-гі год навучання.
**9.35.** Вячэрні салон.
**12.15.** «Лотас». Тэлефільм.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Там-там-навіны.
**15.15.** Першы тайм.
**15.30.** Фальклор. «Сусветная вёска».
**16.15.** Прастора плюс.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** Непазнаны Сусвет.
**17.45.** М-трэст.
**18.00.** Экран крымінальных паведамленняў.
**18.10.** Белая варона.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Паралелі. Відэафільм пра стары Пецярбург «Развітанне».
**20.00.** «Артабстрэл».
**20.55.** На сесіі ВС Расіі.
**21.25.** «К-2» прадстаўляе: «Каронка», «САС», «3, 2, 1» і маст. фільм «Доўгае шчаслівае жыццё».

## РАДЫЁ

### 22 мая

Апошнія паведамленні: 6.00, 7.00, 10.00, 15.00, 20.00, 23.00.

7.00 — «Радыёфакт». 8.05 — «Дзелавы кур'ер». 8.15—«Вясковыя ростані». 9.15—Я. Пушча. «З зямлёй навекі знітаваны». Радыёкампазіцыя. 10.15 — А. Вольскі. «Тры Іваны — тры браты». Радыёкампазіцыя. Частка 2-я, заключная. 11.20—«Саветы: улада і справы». 12.00 — «Апоўдні». 13.00—«У абедзенны перапынак». 14.00 — новыя музычныя запісы радыёфанатэкі. 15.15—«З намі музыка». Народныя мелодыі. 16.05—«Хто ў доме гаспадар?». Перадача для школьнікаў. 17.00 — канцэртная праграма. 18.00 — перадачы абласнога радыё. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45—вячэрняя казка. 20.00—«Дзень нашага жыцця». 20.40 — «Машэрава, 21». Прафсаюзны веснік. 21.00—музычная праграма па пісьмах радыёслухачоў. 23.10 — канцэрт. 0.00—«Начны канал».

## НАДВОР'Е

### 21 мая

Сёння ўдзень па рэспубліцы пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску — 17—19, Магілёве — 19—21, Гомелі —20—22, Мінску—21—23, Гродна — 22—24, Брэсце — 23—25.

У наступныя двое сутак па рэспубліцы пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі 22-га месцамі кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Тэмпература паветра 22-га ўначы — 5—10, удзень — 12—17, па паўднёваму захаду — 20—25, 23-га ўначы — 1—6, па поўначы замаразкі да нуль — мінус 2, удзень — 13—18 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**



## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ — СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**Знаходжанне ў Мінску Прэзідэнта Фінляндскай Рэспублікі Маўна Хенрыка Койвіста.**

**«З самых—самыя».** Да вынікаў конкурсу **«Педагог года-92».**

**«Апошні бастыён або лыка ў строчку».** Лёгкую прамысловасць рэспублікі яшчэ можна выратаваць...

**«Страх перад страхаваннем».** З 1 студзеня 1993 года ў Расіі ўводзіцца Закон аб медыцынскім страхаванні. Як у гэтым плане абстаяць справы ў Беларусі?

Чытаючы зводкі Дзяржкамстата **«Ад «хрушчовак» да «чарнобыльскіх катэджаў».**

**Чытач — чытачу.** Падборка пісьмаў.

**«Свет сучасніцы».** Сям'я, работа, адпачынак.

Рэклама, аб'явы



**Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

**ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ:** член рэдакцыйнай калегіі Іван Бараноўскі, намеснік адказнага сакратара Яўген Ляхаў, старшы карэктар Ала Сабалеўская.

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Тыраж 81.098. Індэкс 63850. Зак. № 100. Выходзіць 250 разоў на год. Нумар падпісаны ў 21.00.**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**